*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# Наша слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 41(375)** **21 КАСТРЫЧНІКА 1998 г.**

## Беларускаму Народнаму Фронту — дзесяць гадоў

19 кастрычніка 1988 года ў Менску быў створаны арганізацыйны камітэт Беларускага Народнага Фронту "Адраджэнне". Першапачаткова да яго складу ўвайшлі нацыянальна-свядомыя прадстаўнікі беларускага народа: хто быў неабыякавы як да нашай мовы, культуры, гісторыі, а яшчэ болей будучыні. Гэтым самым праявілася воля беларусаў да незалежнасці, свабоды і самастойнасці. Народны Фронт з самага пачатку стаў адной з палітычных сіл, якая змагалася за незалежнасць Беларусі, за свабоду і дабрабыт усіх яе жыхароў. І з самага пачатку БНФ адчуў на сабе шалёны ўціск з боку тагачасных уладаў. Нягледзячы на гэта Народны Фронт раскрыў праўду пра маштаб і наступствы Чарнобыля, распачаў змаганне супраць прывілеяў камуністычнай наменклатуры. Актыўнымі яго намаганнямі была прынята Дэкларацыя незалежнасці краіны.

А якіх высілкаў запатрабавала прыняцце Закона аб мовах. Упершыню беларуская мова стала дзяржаўнай. Дзеячы Беларускага Народнага Фронта ўвідавочкі разумелі, што без беларусізацыі проста немагчыма стварэнне самастойнай незалежнай беларускай дзяржавы. Дзяржавы, якая можа і павінна заняць пачэснае месца сярод краін заможнай Еўропы.

І сёння, як дзесяць гадоў назад, БНФ "Адраджэньне" змагаецца за інтарэсы беларускага народа, за нашую мову, культуру, бароніць незалежнасць і дэмакратыю.

18 кастрычніка ў Менску прайшоў мітынг, прысвечаны 10-годдзю БНФ. На мітынгу было сабрана больш 200 подпісаў за адкрыццё нацыянальнага ўніверсітэта.

19 кастрычніка адбылося ўрачыстае паседжанне з нагоды 10-годдзя БНФ.

***Язэп Палубятка.***

## Ушанавалі памяць земляка

8 кастрычніка г.г. у Глыбокім, ва ўрачыстых абставінах была адкрыта мемарыяльная табліца з нагоды 100-х угодкаў ад нараджэння славутага земляка, польскага пісьменніка Тадэвуша Далэнгі - Мастовіча. Ён нарадзіўся 10 жніўня 1898 года на Глыбоччыне ў фальварку Акунёва Пліскае воласці. Фальварак Мастовічаў лічыўся лепшым у акрузе. Потым сям'я пераехала на сталае жыхарства ў Глыбокае. Жыла па вул. Кракаўскай (цяпер вул.Савецкая,8). Будынак, нажаль не захаваўся. Засталіся рэшткі падмурка і добры склеп, які выкарыстоўваюць жыхары новапабудаванага побач дома.

Памятная табліца прымацавана на будынку раённага суда, які стаіць побач з касцёлам Св. Тройцы. На табліцы , з партрэтам пісьменніка, надпіс: на беларускай і польскай мовах: "Тут побач стаяў дом, у якім жыў выдатны пісьменнік Тадэвуш Далэнга - Мастовіч. 1898 - 1939"

На адкрыцці мемарыяльнага знака прысутнічалі мясцовыя паэты, пісьменнікі, краязнаўцы, бібліятэчныя работнікі, кіраўніцтва раёна, а таксама прадстаўнікі польскай амбасады на чале з консулам Вальдэмарам Мендзелеўскім. З прамовай выступілі намеснік старшыні Глыбоцкага райвыканкама Тацяна Саўліч, консул польскай амбасады В.Мендзелеўскі і ксёндз-дэкан Глыбоцкага парафіяльнага касцёла Цырыль Клімовіч, які сказаў колькі слоў удзячнасці мясцовым уладам за клопат за адраджэнне і захаванне культурна-гістарычнай спадчыны, асвяціў мемарыяльны знак.

Творчасць Тадэвуша Далэнгі - Мастовіча неразрыўна звязана з беларускай тэматыкай і яскравым прыкладам таму ёсць вядомы твор "Знахар". Паводле яго польскім кінематографам зняты і адноўлены фільм, які вельмі папулярны і на Беларусі.

Мастовіч аўтар шэрагу твораў: "Ківоны", "Чэкі без аплаты", "Кар'ера Нікадыма Дызмы" ...

Завяршылася ўрачыстасць у кінатэатры "Радзіма" урачыстнай вечарынай, падрыхтаванай супрацоўнікамі Глыбоцкага гісторыка-этнаграфічнага музея і раённай бібліятэкі, дзе былі прачытаны ўрыўкі з твораў Мастовіча і паказаны кадры экранізаваных твораў. Трэба сказаць, што пісьменнік цесна супрацоўнічаў і з польскім кінематографам, 8 з 16 твораў экранізаваны.

Ушанаванне 100-х угодкаў ад нараджэння пісьменніка Тадэвуша Далэнгі - Мастовіча праводзілася ў шэрагу мерапрыемстваў Глыбоцкай раённай камісіі па захаванні культурна-гістарычнай спадчыны, якая створана пры райвыканкаме.

**Уладзімір Скрабатун.**
**Краязнаўца.**

## Створаны міжнародны фонд "Крэва"

9 кастрычніка 1998 года ў Крэве прайшла Міжнародная навуковая канферэнцыя **"Крэва: гісторыя і сучаснасць".** У канферэнцыі прынялі актыўны удзел мясцовыя краязнаўцы, настаўнікі гісторыі і геаграфіі, беларускай мовы і літаратуры Смаргоншчыны, вучні Крэўскай сярэдняй школы, студэнты 4 і 5 курсаў кафедры гісторыі і музеязнаўства Беларускага ўніверсітэта культуры.

Канферэнцыя адбылася ў Крэўскім доме культуры, у вестыбюлі якога на другім паверсе былі арганізаваны выставы-продажы беларускіх кніжак і вырабаў мясцовых майстроў у галіне ўжытковага мастацтва. Усе выступы адбываліся па беларуску, замежныя госці выступалі папольску і расейску.

Удзельнікаў канферэнцыі віншавалі:

**Князь Кейстут** — народны артыст Рэспублікі Беларусь Валянцін Белахвосцік,

**Някляеў У.П.** — старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў,

**Гілеп У.А.** — старшыня Беларускага фонду культуры,

**Анатоль Грыцкевіч**, прафесар. Доктар гістарычных навук г. Менска "Крэва" гісторыя і сучаснасць",

**Тадэвуш Поляк**, прафесар. Архітэктар-рэстаўратар г. Варшава,

**Іонас Глямжа,** прафесар. Архітэктар - рэстаўратар г.Вільня,

**Алег Трусаў**, К.Г.Н. г. Менск " Матэрыяльная культура Крэўскага замка",

**Ігар Чарняўскі** г. Менск " Некаторыя асаблівасці Крэўскага замка",

**Міхась Спірыдонаў** К.Г.Н. г.Менск "Крэва: хроніка XVI стагоддзя".

Сярод удзельнікаў было распаўсюджана некалькі дзесяткаў асобнікаў газеты "Наша слова".



***Разбой. Вайна і зноў вайна,***
***Хапіла і крыві, і болю.***
***Усё было — чаго ўжо болей?***
***Скажы, у чым твая віна,***
***Адкрый, у чым віны прычына,***
***Мая самотная Айчына.***

***Ці сапраўды руіны ў Крэве —***
***Адзін дзірван, пясок пусты,***
***І праўда, што на Божым дрэве***
***Ад дзічкі прыжылася ты***

***У.Някляеў***

У выніку канферэнцыі створаны міжнародны фонд "Крэва". Старшынёю фонду абраны Ўладзімір Някляеў, які нарадзіўся і вырас у мястэчку Крэва.

***Першы намеснік старшыні ТБМ***
***Алег Трусаў.***

**18 кастрычніка памёр Генадзь Сакалоў-Кубай, мастак і гісторык мастацтва, выкладчык Беларускага ўніверсітэта культуры і Беларускай акадэміі мастацтваў, адзін з заснавальнікаў БНФ "Адраджэньне" і ТБМ імя Францішка Скарыны, кіраўніка адной з Менскіх суполак ТБМ.**

**Сакратарыят ТБМ канстатуе, што ў асобе Генадзя Сакалова - Кубая Беларусь страціла слыннага змагара за волю і мову. Сакратарыят ТБМ выказвае самыя шчырыя спачуванні родным, а таксама сябрам і паплечнікам нябожчыка.**

## *Беларускія СМІ пра беларускую мову*

*Агляд і каментары Язэпа Палубяткі*

Нянавісць да беларускай мовы з боку прэзідэнта Лукашэнкі наглядна на практыцы праяўляецца ў тым, што беларуская мова "не мае дазволу" на ўваход у вертыкальныя ўстановы. Па словах самога А.Лукашэнкі, на беларускай мове немагчыма "выразіць што-небудзь вялікае". Паколькі вертыкаль займаецца толькі вялікімі справамі і ідэямі, то ўжыванне роднай мовы робіцца зусім непатрэбным.

**Пагоня 29.09.98г.**
**Станіслаў Урбановіч.**

*Дарэмная справа спрачацца, якая мова лепшая. Зразумела што для кожнага нармальнага чалавека самай лепшай і найпрыгажэйшай з'яўляецца свая, родная. Гэта значыць, беларусу-беларуская, паляку-польская, рускаму-руская, кітайцу-кітайская і г.д. Таму мне вельмі смешна чытаць абрусеўшага беларуса, які пачынае нешта даказваць наконт "убоства і прымітыўнасці" мовы, якой ён не ведае і не карыстаецца. Няма моў гарадскіх ці вясковых, інтэлегентных, добрых ці дрэнных.*

***Тамара Міханёк "Народная воля"***
***9.10.98г.***

Прыняцце такога артыкула (арт.№2 Закона аб Мовах... аўтар) аб роднай мове беларусаў наша рэспубліка па частцы моўнага заканадаўства рашуча наблізілася да цывілізаваных дзяржаў свету, у якіх толькі так, а не інакш будуецца палітыка да мовы тытульнай нацыі.

— " —

Зробленыя змяненні і дапаўненні да Закону аб мовах — гэта відавочны адыход ад крайне хісткага беларуска - рускага двухмоўя да рускага аднамоўя. Урад рэспублікі смела стаў на такі антынацыянальны шлях, бо выдатна разумеў, што дашчэнту зрусіфікаваны ўсёй папярэдняй дзяржаўнай палітыкай беларускі народ не ўздыме голасу ў абарону роднага слова.

**Леанід Лыч**
**Народная воля**
**7.10.98г.**

*Беларуская мова больш чым за паўстагоддзя майго жыцця на эміграцыі дала мне натхненне да творчай працы ў літаратуры, узгадавання дзетак, адкрыла дзверы да ўжо няўяднай беларускамоўнай літаратуры, яе шматлікіх майстроў...*

*... Будзе аднаўляцца і жыць наша мілагучная, мяккая, сьпеўная, прывабная мова, што і дагэтуль выжыла пад нападкамі ворагаў стагоддзямі!*

***Кастусь Акула***
***Наша Ніва №18***

Лёс нашай мовы і Бацькаўшчыны, як паказалі падзеі пасля першага "лукашэндума", залежыць цяпер ад кожнага з нас. Крыўдна асэнсоўваць, што для большасці нашага грамадства пасьля траўня 1995 году ў тым, што датычыцца мовы, верх узялі "каўбасныя пачуцці". Тут я маю на ўвазе ў першую чаргу выкладчыкаў ды шмат каго з інтэлігенцыі. Як толькі на дзяржаўным узроўні была знята датацыя за выкладанне на роднай (нямала ж сярод іх менавіта беларусаў) мове — што праца скажам, на занятках у інстытуце замежных моў.

Яе, матчыну мову немагчыма забараніць. Ёсць яшчэ сумленне грамадзян, якія ўжываюць і будуць ужываць мову ў штодзённым жыцці незалежна ад грошай, таму што гэта мова ўласнае думкі.

**Раман Свірскі**
**Наша Ніва №18.**

*Калі нашу мову ненавідзяць, то гэта сведчыць пра тое, што не такая яна ўжо і кволая, што яна ёсць і існуе, мае вагу, з ёю лічацца і хочуць зруйнаваць*

***Алесь Касьцюковіч***
***Наша Ніва №18***

Калі тую мову, якой я пішу. якой я размаўляю, якой я дыхаю, якой я жыву, нехта хоча забараніць — некуды адыходзіць роспач і мне робіцца смешна. Як забараніць жыццё? Як можна перакрэсліць гісторыю маёй краіны? Майго народу? Як? ..

**Юры Чарнякевіч**
**Наша Ніва № 18**



# ЯКІМ БЕЛАРУСАМ ПАТРЭБНЫ СВЯТАР?

Прачытаў я ў "Нашай Ніве" № 17 (114) ад 14 верасня 1998 года вельмі добры артыкул Сяргея Абламейкі "Беларусам патрэбны сьвятар" і, цалкам згадзіўшыся са зместам артыкула, задумаўся: якім жа беларусам патрэбны святар?

Тым беларусам, якія даўно забыліся (ці ніколі не ведалі) беларускую мову, гісторыю, культуру, традыцыі і галасавалі за "новы" сцяг, "новы" герб і аб'яднанне Беларусі з Расеяй, святар не патрэбны. Яны фактычна не з'яўляюцца ні беларусамі, ні рускімі, а ёсць расейцы. І моляцца яны ў расейскай Праваслаўнай Царкве не за Беларусь і беларускі народ, а за Расею, якую лічаць сваёй радзімай. Ім хапае святароў расейскіх.

Тым беларусам, сябрам БНФ, якія змагаюцца за незалежнасць беларускай дзяржавы, за беларускую мову, адраджэнне традыцыяў, а самі моляцца ў расейскай царкве на расейскай мове за расейскую дзяржаву, якая менавіта ўсё гэта старанна вынішчае (а, значыць, моляцца супроць саміх сябе, сваёй Радзімы, будучыні сваіх дзяцей), святар таксама не патрэбны.

А між іншым, сярод іх шмат і інтэлегенцыі, што так і не зразумела наступнае. У прыродзе няма нічога, што знаходзілася б у супакоі. Усё вібруе і выпраменьвае энергію: зямля, паветра, расліны, жывёлы, людзі, нашыя думкі, словы, нашыя душы, нашыя сімвалы. Чаму мы нарадзіліся менавіта тут, на Беларусі? Таму, што вібрацыя і выпраменьванне душы, якую даў нам Бог, супадае з вібрацыяй і выпраменьваннем беларускай зямлі. А мова, гісторыя, культура, звычаі, успрыманне Бога — гэта непасрэдны іх вынік. Гэта адзін з сумесных прынцыпаў Зямлі і Сусвету. Калі ён нарушаецца, а менавіта, вібрацыі мовы і малітвы не супадаюць з вібрацыямі зямлі і душы, тады разбураецца ўсё: здароўе, узаемаадносіны, псіхіка, мараль, гіне дзяржава, мова, культура, мінулае і будучыня, гіне нацыя. Людзі становяцца акупантамі сваёй роднай зямлі, разбуральнікамі свайго жыцця.

Гэты прынцып парушаецца таксама пратэстанцкімі і баптысцкімі царквамі на Беларусі. І ніякі святар ім не патрэбны. Яны маюць сваіх прасвітараў, якіх знаходзяць сярод сваіх вернікаў.

Недалёка ад іх адышлі і тыя беларусы, якія заяўляюць, што ім пасярэднікі не патрэбны і яны самі звяртаюцца проста да Бога, без споведзі, Святога Прычасця і божага блаславлення, усяго таго, што перадаў апосталам Ісус Хрыстос і што праз святароў перадавалася ўсім пакаленням хрысціянаў.

У беларусаў католікаў у касцёлах ёсць ксяндзы, прытым многія з іх, напрыклад, айцец Уладыслаў з касцёла святых Сымона і Алены і айцец Міхал з касцёла Святога Роха ў Менску, праводзяць усе службы на беларускай мове.

Застаюцца вернікі Беларускай Грэка-Каталіцкай (Вуніяцкай) Царквы. У Менску ў іх дзве парафіі: парафія Святога Язэпа, настаяцелем якой быў дэкан Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы протапрасвітар айцец Ян Матусевіч, які памёр 2 верасня 1998 года, і парафія Маці Божай Нястомнай Дапамогі, настаяцель якой святар айцец Казімір Ляховіч у маленькім памяшканні па вуліцы Прытыцкага, 38 адпраўляе ўсе літургіі і вячэрні для сваёй парафіі і парафіі Святога Язэпа.

Выходзіць, сьвятар патрэбны беларусам парафіі Святога Язэпа ў Менску, а таксама сотням вернікаў-вуніятаў па ўсёй Беларусі, дзе амаль што па паўтары дзесяткі існых парафій даводзіцца пяць святароў. Спадзяёмся, у гэтым годзе ў парафіі Святога Язэпа з'явіцца новы святар. Але ж гэта не вырашыць лёсу Беларусі.

Беларусам патрэбна свая нацыянальная Царква, якая мусіць, развіваючыся наводле сваіх нацыянальна-культурных традыцыяў, скансалідаваць і захаваць беларускі народ. Такою Царквою на Беларусі сталася Вунія.

Яшчэ ні адна нацыя, ні адна дзяржава, пачынаючы з Чэхіі і скончваючы Ізраілем, не аднавілася без сваёй нацыянальнай Царквы, а тым больш, маючы дзве (ці больш) дзяржаўныя мовы. Гэта добра разумеў протапрасвітар айцец Ян Матусевіч і рабіў дзеля адраджэння Царквы і мовы ўсё, што мог. Калі гэта зразумеем і мы, то гэта будзе яму добрым помнікам.

*А. Хацкевіч*
*грэка-католік.*

# Лёсы

У "Масеевай кнізе" (Мн.1994г.) Масей Сяднёў, беларускі пісьменнік, які жыве ў ЗША, успамінае:

"Я згадаў тут мову. О, які гэта фактар! Здзіўлю, калі скажу, што жывую, народную, не літаратурную беларускую мову я ўпершыню пачуў у менскай турме ад падлетка - школьніка з заходняй, прыграбнічнай Беларусі. У крыўдзе на бацьку ён перайшоў мяжу. Бацька за нейкае непаслушэнства даў яму дзягі і хлапчына, закасаўшы свае штонікі, укведены, перайшоў рэчку і няўзнак апынуўся ў Саветах. Быў я здзіўлены ягонай чысцюсенькай, прыгожай беларускай мовай. Сам я паходжу з паўднёва - усходняга кутка Беларусі, і гаворка там мяшаная, не тыпова беларуская, пераходная. Я ведаў толькі беларускую літаратурную мову і быў абрадаваны, калі пачуў ад перабежчыка сапраўдную беларускую мову" (с.282).

Аб тым як складваўся далейшы лёс гэткіх "перабежчыкаў" можна даведацца з успаміна -замалёўкі "былога індзігірскага геолага, а зараз жыхара Рыгі" Л.Папова.

"Перайшоў Кузьма мяжу."

Жыў у Польшчы беларускі хлопец Кузьма. Не меў ні кала, ні двара. Батрачыў на паноў. Спрачаўся з імі, свае правы бараніў. Яны яго то харчамі абдзеляць, то з заробку больш чым трэба вылічаць. Пачуў Кузьма, што побач ёсць дзяржава рабочых ды сялян. Кінуў ён паноў і пайшоў за мяжу. Сустрэлі яго на мяжы, перапыталі. Распавёў Кузьма ўсё як было. Не далі яму веры рабочыя ды сяляне, не змаглі, мабыць, зразумець, як можна ад капіталізму дабраахвотна сыйсці. Было гэта ў 1939 годзе. Далі Кузьме для пачатку 10 гадоў, як агенту імперыялізму. Потым яшчэ дадалі. З лагера ў лагер і дабраўся Кузьма да Індзігіркі. Тут яго і вызвалілі ў 1954 годзе. Нават пашпарт далі, але без грамадзянства. Пачаў Кузьма на волі жыць, праўду шукаць. Летам у поле з геолагамі ходзіць — базу вартуе, хлеб выпякае, а ў маразы ў пасёлку перабіваецца. Адну зіму ў нас у будынку ІТР, дняваліў. Аднойчы напіўся, пачаў стрэльбу прасіць, адпомсціць камусьці жадаў. Нам на працу ісці(справа ў абед была), а як Кузьму са стрэльбаю пакінеш? Самы мудры з нас затвор выняў і непрыкметна Кузьме пад падушку паклаў. Увечары прыходзім, а ў хаце ўсё дагары нагамі — Кузьма затвор шукаў, але гэтак і не знайшоў. Не знайшоў Кузьма і свайго месца ў жыцці. Пачынаць усё спачатку сіл няма, прытуліць галаву таксама няма дзе — сям'і няма, крэўныя згублены. Узлаваўся на ўсіх Кузьма. Прывёў яго лёс ізноў на лаву падсудных. Гэтак і загінуў ён"(Л.Попов "Разные дороги на Индигирку" — "Северная Заря", 14 мая 1992 г., п.Усть-Нера, Оймяконский р-н.ЯАССР)

Гэтак нішчылася беларуская мова, гэтак гублялася нацыянальная свядомасць. Гэтак дэградавала сама нацыя.

Якраз аб гэтым і сведчыць інтэрвію Алены Патоцкай, што яна ўзяла ў Антона Антонавіча Даўлюда, які нарадзіўся 15 ліпеня 1919 г. у в.Навіны на Навагрудчыне, Бацькі ягоныя памерлі калі яму было толькі 6 гадоў, таму да 1935 года ён жыў са сваёй бабуляй. У 1941 годзе пайшоў у партызаны, быў кулямётчыкам, камандзірам аддзялення, пакуль, 20 ліпеня 1944 г. іхні атрад не злучыўся з Чырвонай Арміяй. Яго пакінулі працаваць пры сельсавеце і ён стаў дырэктарам саўгаса, але ўжо ў 1945 г. быў асуджаны на 8 гадоў "за перавышэнне службовых паўнамоцтваў" і накіраваны на Калыму. Працаваў на будоўлі мастоў, дарог, будынкаў, сплаве лесу.

У 1951 г. датэрмінова быў вызвалены. Ажаніўся з мясцовай ураджэнкаю, якая нарадзіла яму 4 дачок (зараз мае 14 унукаў). Стала асеў у пасёлку Церуць Аймяконскага р-на (зараз улуса) Якуціі. Працаваў цесляром. У 1976 г. выйшаў на пенсію, але да апошняга часу працягваў працаваць сантэхнікам.

Дык вось Алена Патоцкая пытае ў яго:

— Антон Антонавіч, ці сумуеце па сваёй радзіме Беларусі? Ці ёсць у Вас там сваякі?

— Не, ніколі не сумаваў па крэўным, па радзіме. Мабыць, адбілася тое, што я быў нікому непатрэбным сіратою, заўжды галодны, босы — успаміны аб дзяцінстве дрэнныя. Са сваякоў стрыечныя браты засталіся. У пяцідзесятых гадах некалькі разоў пісаў, расшукваў. Яны не сталі мне адказваць і я перастаў іх турбаваць.... 18 снежня 1996 г. спаўнецца 51 год, як я жыву ў Аймяконскім раёне. З іх 35 гадоў у Церуці ...

Менавіта пасёлак Церуць і зрабіўся маёй сапраўднай Радзімай".

(Е.Потоцкая "Здесь его дом" — "Северная Заря", 7 мая 1996 г. п.Усть-Нера)

*А.Бароўскі*

# Патрыятызм у нас розны

Чытаючы газеты "Наша слова", "ЛіМ", "Наша Ніва", часопісы "Спадчына", "Роднае слова", некаторыя мастацка-гістарычныя творы, як У.Арлова "Адкуль наш род?" і іншыя публікацыі, мы адчуваем, што яны прасякнуты глыбокім патрыятызмам — любоўю да роднай зямлі, сваёй краіны, народа. Такія пачуцці і рысы ўласцівы многім грамадзянам Беларусі.

Але, як вядома, у нас на дзяржаўным узроўні пануе іншы патрыятызм. Старэйшае пакаленне ведае, што ў савецкі час, у які мы выраслі, патрыятызмам лічылася любоў да Савецкага Саюза, КПСС, савецкага народа, яго кіраўнікоў. Гэта ярка выявілася ў гады Айчыннай вайны, калі ў імя Радзімы і Сталіна праяўляся масавы гераізм. У слоўніку Ажэгава даецца такое тлумачэнне: Патрыятызм — адданасць, любоў да сваёй Айчыны, народа; прыклад - *савецкі п-зм.* У "Асновах навуковага камунізму" ён апісаны на дзвюх старонках. Дык вось цяпер у нашай краіне аджыў і адраджаецца менавіта такі патрыятызм. Яго культывуюць праз дзяржаўныя органы, іхнія сродкі масавай інфармацыі. Дзеля гэтага па ініцыятыве прэзідэнта створаны Беларускі патрыятычны саюз моладзі, па мэтах і структуры падобных на камсамол — рэзерву камуністычнай партыі. Падобная мэта зусім нядаўна стваранага некаторымі партыямі і рухамі Беларускага народна-патрыятычнага саюза ў падтрымку прэзідэнта.

Аб сапраўдным патрыятызме, які праяўляецца ў людзей кожнай нацыі, усіх гістарычных эпох выказваліся многія знакамітыя асобы, шмат пісалі беларускія майстры мастацкіх твораў. Вось радкі з паэмы Я.Коласа "Сымон-музыка":

*"Ой, край родны,*
*край прыгожы!*
*Мілы кут маіх дзядоў!*
*Што мілей ў свеце божым*
*Гэтых светлых берагоў ..."*

П.Панчанка ў 1942 годзе напісаў:

*"Асушу твае слёзы,*
*залячу твае раны,*
*Каб ты вечна цвіла*
*і ў шчасці расла,*
*Дарагая мая Беларусь!"*

*"О, Беларусь!*
*Мяне ты ўзрасціла.*
*Дала мне мову, песню,*
*зрок і слых,*
*Каб іх зберог я*
*для дзяцей сваіх".*
(А.Грачанікаў).

У вершы - песні А. Ставера словы:

*"Каб любіць Беларусь*
*маю мілую,*
*Трэба ў розных*
*краях пабываць"* ...

Як вядома, свядомая частка беларускага грамадства адчувае і выражае нацыянальны патрыятызм, змагаецца за свабодную і незалежную Беларусь, за адраджэнне роднай мовы, за ўжыванне спрадвечных сімвалаў, за праўдзівую гісторыю. Але кіраўніцтва цяперашняй РБ занесла іх у стан апазіцыі, у разрад сваіх ворагаў, называючы рознымі крыўднымі словамі: дзярмакраты, горадэмакраты, нацыянал-экстрэмісты, "Проходимцы от политики подстрекателей", — з прамоваў прэзідэнта. Апаратчыкі ад улады выкінулі з школьнай праграмы знаёмства з творамі выдомых патрыётаў-паэтаў Л.Геніюш, Н.Арсенневай і М.Сяднёва. Не так даўно створаны БПСМ ніводным словам не прагаварыўся аб неабходнасці выхавання ў моладзі нацыянальнай свядомасці. *"А якім жа можа быць патрыёт, калі ён не ведае элементарнага — сваёй мовы ці гісторыі?"* — пісала "Звязда".

І хоць нацыянальна накіраваных патрыётаў сёння ўлада крытыкуе і пераследуе, абмяжоўвае, і забараняе іхнюю грамадска-палітычную дзейнасць, прыхільнікі і паслядоўнікі іх былі, ёсць і будуць заўсёды і ўсюды. Яны часцей за ўсё не ходзяць па вуліцах з бел-чырвона-белымі сцягамі, не выгукваюць кліч "Жыве Беларусь!", але нярэдка вітаюцца ім, балюча перажываюць нягоды Бацькаўшчыны.

Расейскі пісьменнік К. Паустоўскі пісаў: **"Истинная любовь к своей стране немыслима без любви к своему языку. Человек, равнодушный к родному языку, — дикарь. Безразличие к языку объясняется полнейшим безразличием к прошлому, настоящему и будущему".** ("Паэзія прозы"). Вось чаму ў наш час трэба лічыць прыярытэтнымі любоў да сваёй Айчыны, зямлі, мовы свайго народа, традыцыяў нашых продкаў, як гэта здаўна вядзецца ва ўсім свеце, а не да пэўных асоб, хоць некаторыя з'яўляюцца кіраўнікамі дзяржавы, ці да аб'яднанай славянскай краіны, якая ствараецца намаганнямі цяперашняй улады ў межах Беларусі і Расеі.

*Міхась Пузіноўскі,*
*Ашмяны.*



**В.І. Саітава**

## Часопіс "Ateneum wilenskie" — крыніца бібліяграфічнай інфармацыі аб Беларусі

*(Працяг. Пачатак у № 39-40)*

Ад пачатку заснавання "Ateneum wilenskiego" рэдакцыя імкнулася наладзіць бягучую бібліяграфічную інфармацыю аб новых асобных выданнях і артыкулах з часопісаў, а ў дальнейшым і артыкулах з асноўных газет Рэчы Паспалітай. У першым выпуску улік асобных выданняў (кніг, карт і іншых) і часопісных артыкулаў пачаты з 1922 года. У той час у РП яшчэ не існавала дзяржаўнага бібліяграфічнага ўліку кніг, таму бібліяграфічная праца, ініцыяванаая рэдакцыяй была не толькі вельмі патрэбнай даследчыкам, аднак і вельмі складанай. Невыпадкова рэдакцыя звярталася да чытачоў з просьбай дапамагчы ў выяўленні дакументаў, асабліва на замежных мовах. У першым нумары адлюстравана 118 асобных выданняў і артыкулаў, акрамя таго да многіх з іх былі прыведзены шматлікія рэцэнзіі. Бібліяграфічнае апісанне выканана ўніфіцыравана і ў зручнай форме, і характарызуецца паўнатой элементаў. Прыводзіўся, напрыклад, такі не характэрны для навукова-дапаможнай бібліяграфічнай інфармацыі элемент, як фармат кніг. Групоўка ўсіх апісанняў была выканана ў алфавітнай паслядоўнасці. Арганізацыя бягучага бібліяграфічнага інфармавання па гісторыі ВКЛ мела вялікае навуковае значэнне, у значнай ступені аптымізавала арыентацыю спажыўцоў у дакументнай плыні. Некаторая нязручнасць алфавітнай групоўкі пераважалася станоўчымі якасцямі бібліяграфічнага дапаможніка, атрыманай магчымасцю сачыць за дакументнай плынню. На жаль, падрыхтоўка бібліяграфічнай інфармацыі была працаёмкім працэсам і ў чарговых выпусках часопіса за першы год існавання бібліяграфічны дапаможнік не друкаваўся.

Аднак патрэба даследчыкаў у бягучым інфармаванні аб новай літаратуры была значнай і таму ў "Aleneum wilenskiem" з'явіліся паказальнікі зместу часопіса і паказальнікі "Віленская рэгіянальная бібліяграфія ў ..." і "Перыядычныя выданні віленскага рэгіёну бібліяграфічнага", якія выконвалі тую ж задачу інфармавання аб новай літаратуры.

Мэтай паказальнікаў "Віленская рэгіянальная бібліяграфія ў ..." і "Перыядычныя выданні віленскага рэгіёну бібліяграфічнага" было забяспечыць поўнае адлюстраванне друкаванай прадукцыі краю. Ствараліся яны на аснове бібліяграфічнай рэгістрацыі друкаў у Публічнай бібліятэцы Віленскага універсітэта і адлюстроўвалі асобныя выданні і матэрыялы з выданняў, пачынаючы з першай паловы 1929 г. (Да 1930 г. бібліятэка самастойна аналагічны выдавала паказальнік). Складальнікам дапаможнікаў быў супрацоўнік бібліятэкі, даследчык гісторыі ВКЛ і аўтар шэрагу бібліяграфічных прац Міхал Амброс. У 1929 г. была заснавана дзяржаўная бібліяграфічная рэгістрацыя твораў друку на тэрыторыі РП. З улікам данай акалічнасці М.Амброс у паказальніку "Віленская рэгіянальная бібліяграфія ў ..." бачыў неабходным падаваць не толькі бібліяграфічную інфармацыю аб літаратуры, выпушчанай у краі, але таксама аб творах, прысвечаных краю і надрукаваных за яго межамі.

Паказальнік "Перыядычныя выданні віленскага рэгіёну бібліяграфічнага" адлюстоўваў перыёдыку за год. Газеты, часопісы і іншыя перыядычныя дакументы групаваліся па раздзелах ў алфавіце выдання, унутры раздзелаў дадаткова дыферынцыраваліся па відах. Такая методыка рабіла зручным бібліяграфічнае выяўленне перыядычных выданняў, якія выходзілі ў беларускіх гарадах, азнаямленне з іх тыпалогіяй, удакладніць змест. Напрыклад, з паказальніка за 1929 г. можна даведацца, што ў Баранавічах выходзілі два перыядычныя выданні, у Брэсце - 16, Гродне - 12, Кобрыне - 2, Нясвіжы - 1, Навагрудку - 6, Пінску - 5 і г.д. Найбольшая колькасць перыядычных вданняў выходзіла ў Вільні і сярод іх было многа беларускіх.

Вельмі карыснымі для даследчыкаў былі два паказальнікі пад назвай "Паказальнікі аўтараў, асоб і мясцовасцяў да Atentum Wilenskiego" (да №№ 1-3/4 за 1923г.; 5/6 - 7/8 за 1924 г.). Паказальнікі складзены кружком гісторыкаў слухачоў універсітэта Стэфана Баторыя і характэрызуюцца значным аб'ёмам. Першы з іх займае 48 старонак, другі - 26. Суцэльны алфавіт аўтарскіх, персанальных і геаграфічных рубрык дазваляе весці пошук па зместу публікацый і арыентавацца па фармальнай прыкмеце аўтарства. Рубрыкі паказальніка дапаўняюцца падрубрыкамі, якія паглыбляюць арыетацыю карыстальніка ў змесце тэкста. Так, да рубрыкі Слоніма дадзены падрубрыкі: лясы, намеснік, павет, пушча. Да персанальных рубрык, дабаўлены даныя аб званнях і пасадах асобаў. Усе падрубрыкі згрупаваны ў алфавітным парадку. Лічбавыя нумары да рубрык і падрубрык адсылаюць да старонак AW ) у выданні прымянялася суцэльная нумарацыя). Каштоўнасць гэтага паказальніка ў тым, што карыстальнік непасрэдна знаходзіў інфармацыю, ў якой быў зацікаўлены.

На працягу 1929 - 1936 гг. у часопісе "Ateneum Wilenski" друкаваўся паказальнік "Бібліяграфія гісторыі зямель б. В.Кс. Літоўскага за год ...". Таксама рабіліся асобныя адбіткі гэтага паказальніка ў выглядзе самастойных бібліяграфічных дапаможнікаў. Ствараўся паказальнік у Віленскай дзяржаўнай публічнай бібліятэцы імя Врублеўскіх вопытным бібліёграфам Стэфанам Бурхардтам, якому дапамагалі другія супрацоўнікі. З яго дапамогай даследчыкі мінулага ВКЛ атрымалі рэгулярнае і поўнае бібліяграфічнае забяспячэнне.

Адлюстойваліся кнігі, зборнікі (іх змест раскрываўся), артыкулы, рэцэнзіі, апублікаваныя пераважна ў Вільні і Варшаве, а таксама ў другіх гарадах РП, у БССР, Маскве, Берліне, Латвіі, Літве, Англіі, ЗША і другіх гарадах і краінах. Уключалася навуковая, навукова-папулярная, даведачная, мастацкая літаратура, мемуары, публікацыі гістарычных дакументаў. Відавочна, што ў адборы дакументаў складальнік аддаваў перавагу крытэрыям навуковасці, навізне і паўнаце інфармацыі, а таксама ідэалагічнай устрыманасці. НЕ адлюстроўваліся адкрыта палітазаваныя публікацыі як збоку БССР, СССР. так і з боку РП.

*(Працяг у наступным нумары)*

*(Працяг. Пачатак у нумары 40)*

Дзеяслоў ***жаць*** утварыў даволі значнае гняздо словаў: ***жаць — жатва, жні — жніво, жне — жнец, жняя, пожня, жнinfярка (жнявярка), зажынаць, зажынкі, дажынаць — дажынкі.*** І хай прыдзірлівы лінгвіст не чэпіцца да слова ***жатва***, што яно не зусім беларускае. Так, правільнае слова тут ***жніво***, але як лінгва-этнагафічная мадэль мае права на існаванне і ***жатва***, калі не ў жывой мове, то ў даследчых працах. І не трэба з лёту крычаць, што гэта русізм. Гэта беларуская форма, аналагічная слову ***бітва.*** Проста форма старая, забытая, бяздарна падараная расейцам.

Усе гэтыя словы датычацца збожавых і толькі слова ***сенажаць*** пераходзіць на траву.

Мы бачылі, як у летувіскай мове слова ***рэзаць*** стала абслугоўваць працэс касьбы. Навукоўцы даводзяць нам, што калісьці існавала балта-славянская мова і хоць гэта не зусім так, але шмат якія моўныя працэсы у гэтых групах моваў цякуць ці, прынамсі, цяклі аднолькава. Таму лагічна пашукаць сінонім дзеяслова ***рэзаць***, які б абслужыў нам працэс касьбы. На першы погляд такога дзеяслова няма. Але заглянем у турэцкую мову. Чытач, асабліва, калі чытач лінгвіст і, не дай Бог, са ступенню, можа ў гэты момант проста абурыцца: "А пры чым тут туркі? Гэта не толькі іншая сям'я моваў, гэта іншая раса". Так то яно так, але цюркі засялілі краіну хетаў, засялілі краіну скіфаў і ў іх мову пранік цэлы пласт інда-арыйскіх словаў. Яны на працягу тысячагоддзяў былі ва ўзаемадзеянні ці то мірным, ці то ваенным з інда-арыямі. Таму заглянуць у гэтую мову мы маем поўнае права. Канешне хацелася б заглянуць і ў нейкую архаічную цюркскую мову кшталту старажытна-якуцкай, але ж як гэта зрабіць.

Дык вось у турэцкай мове ёсць слова ***kaset***, якое абазначае ***рэзаць, выразаць.*** Але што такое рэзаць? Гэта — падзяляць на кавалкі, ***кускі.*** Але ***кусок*** можна проста ***адкусіць.*** У беларускай мове інда-арыйскае слова ***kavala — глыток, кавалак*** выцесніла слова ***кусок***, але словы ***кусаць, закуска, укус*** засталіся. Дарэчы расейскае слова ***кушаць*** не што іншае, як тое ж ***кусаць.*** Не дарам японцы кажуць ***кусаць-кусаць.*** Але гэта дзеля жарту. Кусае воўк і сабака, кусае і адкусвае чалавек. Можа ўкусіць конь. Звычайна не кажуць што жывёла кусае траву. Нават у расейцаў конь "не кушает , а ест". У нас тым больш, жывёла ***есць, скубе, жуе***, але можа і ***адкусіць.*** Такім чынам корань ***кус*** у нас ёсць. І калі ***каса косіць***, то яна ці рэжа ***kaset***, ці ***кусае, зкусвае*** траву.

А можа мы проста гэтае самае слова ***kaset*** запазычылі ў цюркаў разам з касой. Хутчэй за ўсё не. У турэцкай мове гэтае слова стаіць асабняком, што сведчыць пра яго запазычаны характар. Каса па турэцку - ***sac orgusu, tirpan, kil burun*** касіць — ***bicmek.*** Я не буду разбіраць, якое канкрэтна слова адпавядае патрэбнай нам касе, але не будучы вялікім спецыялістам, кожны можа самастойна ўбачыць, што нічога падобнага на ***kaset*** тут няма.

Такім чынам мы трансфармавалі корань ***-кус-*** у ***-кас- (кос)*** і атрымалі з ***кусаць касіць.*** Ну а далей пайшлі: ***каса, касец, касьба, касілка, кассё, касавільна, сенакос, сенакасілка, пакос, пракос, укос,*** (прыстаўкі ***па-, пра-,у-*** арганічна стануць і да кораня ***-кус-: пакусаць, пракусіць, укус).***

І вось зараз падышла пара заглянуць у санскрыт. Як ужо згадвалася словаў ***каса, касіць*** мне там пакуль што знайсці не ўдалося, але знайшлося слова ***ksattar*** — той хто рэжа, забівае. Санскрыцкае ***ksa*** ў значэнні рэзаць хутчэй за ўсё і ёсць тая аснова і турэцкага ***kesat*** і нашага ***кусаць*** і ***касіць.*** Адсутнасць галоснай пасля **k** і дало тыя варыянты гучання ў залежнасці ад адценняў значэння.

А можа дарэмна гэты агарод гарадзілі, можа ўсё прасцей. Можа слова ***каса*** пайшло ад таго, што ў адрозненне скажам ад дзіды, дзе наканечнік насаджаны проста, ***каса*** названа ***касой***, бо была насаджана ***коса***, пад ярка выражаным вуглом ды і сама была не роўная, а крывая (касая). Можа. Але вернемся да нашых моваў, якія мы тут скарыстоўвалі. Па грэцку ***коса, наўскасяк — plagios*** (вось адкуль ***плагіят).***

Па нямецкаму ***коса — schraq, schiet, krumm.*** Па летувіску ***коса — skersomis, касавокі - skersakis.*** Ва ўсіх выпадках нічога блізкага да касы. Таму хутчэй за ўсё тое, што слова ***коса*** пайшло ад ***касы.*** Па-беларуску і па-летувіску ***коса*** гэта значыць яшчэ і ***ў бок.*** Каса тырчыць у бок, коса. З'явілася ***коса,*** далей пайшлі ***наўскасяк, касавушка, скос, адкос***, і г.д.

# Аповесць пра словы
# КАСА

У пісьмовых крыніцах каса згадваецца даволі даўно, мо ў пачатку эры. У беларускіх пісьмовых крыніцах трапляюцца наступныя згадкі, зафіксаваныя ў Гістарычным слоўніку беларускай мовы.

"... на наше дело ни на которое тымъ людемъ не ходить ни зъ сохою, ни зъ косою, ни зъ серпомъ, (АЗР,І,103,1483);

...посполъ зъ волостью велить намь тяглую службу служити, дякла и подводы давати, на роботу къ двору господарскому съ топоромъ и зъ сохою и съ косою ходити (КСД, 224,1515);

... к сеножатемъ не мает ни с чимъ ити толко з сокирою ... а с косою чим ее мaеть косити (Ст.1529-Ф, 122);

...мы ихъ сена кошеного на сеножатехъ ихъ не брали, ни косъ и грабель есмо не отнимали (АВК, ХУІІ,14, 1539); къ сеножатем ити толко съ сокерою чим з а р о с л и ростеребити а с косою чим ее косити (Ст.1566 І,80);

...топор, косу отняли (АВК, ХХХУІ,192,1582);

ходил вес израйль до филистинов острити лемеши свои и мотыки и секьри косы и серпы (Біблія, 320);

...жаловал на ... особь помененых о гвалтовное погребленіе трох кос на сеножати (АВК, ХХХ,340, 1607); вжо самого жита и ячменю до жатья поспелого косами покосили и серпами некоторое пожали (ИЮМ, ХХІІ, 273,1652)".

А зараз пасля лінгвістычных хаджэнняў вакол касы можна сказаць пра яе з этнагафічнага погляду.

КАСА, прылада для скошвання травы і збожжавых культур. Слова ***каса*** мае два значэнні. Гэта металічнае палатно. Гэта і ўся каса ў зборы. Каса ў зборы складаецца з уласна касы, касся (касільна, касавільна) — драўлянай палкі даўжынёй каля двух метраў, кулькі — своеасаблівай ручкі, за якую трымаецца касец, як правіла, правай рукой, сустрэць левую касу не выпала ні разу: рэхвы — як правіла, металічнага колца, якім мацуецца каса да касся і кліна, таксама элемента мацунку. Да 15 ст. бытавалі паўкоскі і косы-гарбушы, якімі касілі гарох і траву каля платоў і пнёў. З 15 ст.былі пашыраны косы з доўгім металічным палатном (лязо) і доўгім драўляным кассём (касільна, касавільна, касаўё). Рэхва на Палессі, Гарадзеншчыне, Нясвіжчыне і ёсць рэхва , на Гомельшчыне , Магілёўшчыне і Меншчыне яна называецца банькай, дзе-нідзе — напарсткам, грывянкай. У некаторых мясцінах паўнёвага ўсходу палатно касы прывязвалі да касся дротам або лазой. Для скошвання збожжавых да касы прымацоўвалі грабелькі (грабкі, грабцы). Грабелькі (тры, чатыры спіцы, выструганыя з ядлоўцу, сасны) мацавалі пад простым вуглом папярочнай планкай да касся, паралельна з палатном касы.



У паўднёва-заходніх і цэнтральных раёнах спіцы пераплталі аборачкай (вяровачкай), лазой, пазней дротам. У канцы 19 -пачатку 20 стагоддзя выкарыстоўваліся ў асноўным косы "вілейкі" ("літоўкі"), выраблялі іх на заводзе ў Вілейцы. Перад касьбою косы кляпалі на тупой бабцы вострым канцом малатка, або на вострай бабцы тупым канцом малатка, а ў час касьбы касу вастрылі бруском ці мянташкай. У наш час косы выкарыстоўваюць у індывідуальных гаспадарках і для касьбы на забалочаных мясцінах, зарослых хмызняком, у лесе; у калгасах і саўгасах былі пашыраны конныя і трактарныя касілкі, сіласаўборачныя камбайны і інш. тэхніка. У апошнія 20 гадоў фактычна ўсё конная начынне сышло ў нябыт, а каса прадаўжае служыць чалавеку.

*(Працяг у наступным нумары)*

***Станіслаў Суднік***

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by



***Аўтары нясуць поўную адказнасць за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі.***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі і друку Гродзенскага аблвыканкама.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Кошт па дамове.Газета падпісана да друку 19. 10. 98 г.
Наклад 3000 асобнікаў. Замова № 2518.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 12 000 руб., 3 мес.- 36 000 руб.